Цана 15 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Вострабрамская 2—11
(Wilno, Ostrobramska 2—11).
Адчынена ад 9 да 19 г.

Часапіс выходзіць раз у месяц

Выпіска: на год 2 зал.
на паўг. 1 зал.
на 3 м-цы 50 гр.

№ 3 (12) Вільня, 10-га лютага 1937 г. Год II.

## Ані камунізм, ані фашызм.

Прыглeдаючыся ўважна да сяньняшняга жыцьця, мы спасьцерагаем узрастаючае з кожным днём змаганьне двух сьветапаглядаў, двух кірункаў: фашыстоўскага і камуністычнага. Змаганьне гэтае дзеліць увесь сьвет на дзьве часьці, якія варожа выступаюць проціў сябе, хватаючыся нават за аружжа. Прыкладам гэтага ёсьць Гішпанія. Трэба прызнаць, што небясьпека пашырэньня гэтага змаганьня на іншыя краі (Бэльгія, Францыя і др.) нарастае з кожным днём.

Камунізм і фашызм—гэта ёсьць ня толькі палітычныя, але і грамадзкія кірункі, якія імкнуцца да зрэфармаваньня дагэтуляшняга грамадзкага жыцьця ў яго найглыбейшых асновах і дзеля гэтага выклікаюць такое вялікае зацікаўленьне ў усіх думаючых адзінак. Ніводзен думаючы і дзейны чалавек ня можа прайсьці роўнадушна каля гэтых двух кірункаў.

*Мэты камунізму* ведамы: пры помачы дыктатуры камуністычнай партыі дайсьці да магчымай роўнасьці грамадзян, да зьнішчэньня падзелу грамадзянства на клясы, да скасаваньня прыватнай уласнасьці, да зьнясеньня рэлігіі і ўсякага культу, да завядзеньня новага, безклясавага, пралетарскага грамадзянства. У гэтым грамадзянстве і вытворчасьць і спажываньне было-б абапёрта на супольных, укамністычных асновах.

А *мэты фашызму* такія: не касаваць клясаў і прыватнай уласнасьці, але ўзяць пад дзяржаўную кантролю прылады вытворчасьці (капітал) і абапёрці грамадзкі лад на салідарызьме клясаў, з тым, каб усе клясы былі салідарны ў агульна - нацыянальных справах. Дабро нацыі для фашыстаў — гэта найвышэйшая мэта. Дзеля гэтага яны проціў барацьбы клясаў, якая аслабляе народ. Да сваіх мэтаў яны ідуць пры помачы дыктатуры фаш. партыі.

Як бачым, рожніцы паміж камунізмам і фашызмам аграмадны. Фашызм нацыяналістычны, а камунізм інтэрнацыянальны; фашызм прызнае прыватную ўласнасьць, а камунізм у апошніх сваіх мэтах яе касуе; фашызм стаіць за салідарнасьць усіх клясаў у працы для агульнага дабра нацыі, а камунізм стаіць на грунце змаганьня кляс, з тым, каб зьнішчыць усе клясы і абярнуць усіх у пралетарыят і гэтым стварыць адну пралетарскую клясу.

Ёсьць пашыраны пагляд, што наш народ знаходзіцца пад уплывамкамунізму і хоча яго. Аднак гэтакі пагляд ня зусім адказвае сапраўднасьці, бо камунізму, як формы жыцьця, у нас мала хто хоча. Імкненьні шырокіх народных масаў ня ідуць у кірунку камунізму, г. зн. супольнасьці маемасьці, вытворчасьці і спажыцьця, але ў кірунку здабыцьця *ўласнага* варштату працы (напр. кавалка зямлі), які мог-бы забясьпечыць існаваньне. Гэта ёсьць найбольшым ідэалам нашага працоўнага сялянства.

Каб памагчы бядзе, некаторыя беларусы, якія маюць засьцярогі да камунізму, пачалі ар'ентавацца на фашызм, чакаючы адтуль вызбаўленьня. Але нам здаецца, што гэта надзея ня мае пад сабою рэальнага грунту, аб чым мы ўжо пісалі ў 9-ым н-ры нашага часапісу. Урэшце засьцярогі да фашызму і агітацыя супроць яго ў бел. народзе настолькі вялікія, што няма ніякай надзеі ані страху, каб ён скора прывіўся.

Што другое камунізм, ён мае яшчэ дагэтуль нейкую вялікую прыцягваючую сілу. Тады калі на Захадзе і на ўсім сьвеце камунізм з наступаючых пазыцыяў пераходзіць на абаронныя, ў нас дзеецца наадварот: камунізм у сваім наступе здабывае штораз новыя пазыцыі, так, як гэта было год таму ў Гішпаніі і Францыі, дзе „людовыя" фронты дайшлі да ўлады... Там наступ камунізму выклікаў рэакцыю ў форме фашызму, і пачалася страшэнная барацьба паміж гэтымі двама кірункамі...

Беларускі народ апынуўся паміж двама вялікімі блёкамі: камуністычным і фашыстоўскім, якія рыхтуюцца да апошняга рашучага бою. У гэтай важнай гістарычнай часіне кожны сьведамы беларус сілай абставін пастаўлены перад важным пытаньнем: з *кім ісьці*—з фашызмам ці з камунізмам? Некаторыя кажуць здэцыдавана: з фашызмам, а некаторыя кажуць: з камунізмам. Мы-ж дзяржымся іншай тактыкі і іншага кірунку: *мы заяўляем, што ў імя дабра Беларускага народу ня пойдзем ані за фашызмам, ані за камунізмам*!

Чаму мы гэтак робім?

Бо як адзін так і другі кірунак не нясе Бел. народу незалежнасьці і сувэрэннасьці, але нясе яму залежнасьць і палітычную і эканамічную.

Як адзін так і другі кірунак імкнецца да фізычнага і духовага нішчэньня Бел. народу.

Як адзін так і другі кірунак нясе няволю, перад якою гаснуць усе даўнейшыя няволі. А ў няволю мы самахоць ня пойдзем. Стаўшы на грунт незалежнасьці, мы адкідаем залежнасьць і ад камунізму і ад фашызму.

**№ 2 „Бел. Фронту" з дня 5.II. г.г. сканфіскаваны.**

**Выпускаем гэты нумар без сканфіскаванага месца ў перадавіцы.**

## Багаслужэньне папольску у Праваслаунай царкве у Польшчы.

За гэты артыкул, а так-жа за вестку „Голад у Дзісеншчыне" № 8 „Б. Фронту" быў сканфіскаваны. Аднак віл. Акружны Суд канфіскаты не пацьвярдзіў і гэтым даў нам магчымасьць надрукаваць гэты артыкул, а так-жа зацемку аб голадзе ў Дзісеншчыне, якую зьмяшчаем ніжэй. Але хто нам верне страты за няслушную канфіскату? Рэд.

Сёлета Сынод праваслаўнай аўтакефальнай царквы ў Польшчы апрабаваў пераклад праваслаўных багаслужэбных кнігаў з царкоўнаславянскага на польскі язык, а ўсьлед за гэтым, як падаюць газэты, ў некаторых праваслаўных царквах ужо пачалося багаслужэньне папольску. Пагражала-б гэта магчымасьцю шырокага ўвядзеньня польскае мовы ў праваслаўных царквах сьпярша ў вялікшых местах, а потым масава на тэрыторыі, заселенай беларусамі і ўкраінцамі.

Чым аб'ясьняецца гэты дзіўны факт, што вышэйшыя праваслаўныя духоўныя ўлады з гэткай лёгкасьцю згадзіліся замяніць панаваўшы ў праваслаўнай царкве ад больш як тысячы гадоў царк.-славянскі язык языком польскім, тым больш, што ня чутно неяк было, каб праваслаўнае насельніцтва Польшчы гэтага жадала?

Паважных афіцыяльных матываў гэтага надта рызыкоўнага шагу, наколькі нам ведама, духоўныя ўлады не падалі і аб іх можна толькі дадумвацца. Справа гэта, аднак, знайшла ўжо водгукі ў прэсе і некаторыя высноўкі можна ўжо зрабіць.

Ведамы на віленскім грунце з сваіх асымілятарскіх імкненьняў адносна беларусаў польскі журналіст Мацкевіч (Cat) у газ. „Слово", спыняючыся над гэтай справай, наўперад сьцьвярджае, што сучасная праваслаўная царква, сьвяшчэньнікі і ў першую чаргу архірэі, каторыя ўцяклі ад бальшавікоў, зьяўляюцца ўльтра-лёяльнымі ў адносінах да польскай ўлады. Ім нічога больш не астаецца, як трымацца палітыкі польскага ўраду, польскіх установаў, што яны і робяць. Дзеля таго Cat, выказваючыся ў прынцыпе супроць замены царк. слав. языка польскім і прыймаючы пад увагу ўспомнены стан праваслаўнага духавенства, сьцьвярджае, што галоўная адказнасьць за гэтую „рэформу" ляжыць на плячах польскай бюракратычнай рэлігійнай палітыкі, каторая імкнецца гэткім способам прышчапіць польскі патрыётызм праваслаўнаму насельніцтву.

Фактам ведамым ёсьць, што праваслаўная царква ў Польшчы перажывае глыбокі крызыс і сьмела можна сказаць, што яна трымаецца сяньня больш сваей традыцыяй, чымся апекай ейных пастыраў. Вышэйшыя прав. духоўныя ўлады і за нямногімі вынятками ніжэйшыя, ў нас адарваліся ад беларускай праваслаўнай масы і зьяўляюцца для яе чужымі нацыянальна і рабілі ўсё, каб гэту прорву паміж сабою і народам не засыпаць, а пашырыць. Найсправядлівейшыя дамаганьні прав. беларускага насельніцтва, каторыя мелі на ўвеце ўзмацненьне царквы і паглыбленьне веры, ігнаруюцца дагэтуль. У рэзультаце пачалі шырыцца розныя сэкты і бязвер'е. Апошняе да того-ж мела і мае моцнага саюзьніка ў бальшавіцкай антырэлігійнай прапагандзе, якая з асаблівай энэргіяй сеіцца і не знаходзіць у праваслаўным жыхарстве ніякага проціўдзеяньня. На гэткім сумным фоне думка Cat'a, што польская рэл. палітыка магла-б спрабаваць прышчапіць праваслаўным беларусам з помаччу царквы польскі патрыятызм (мы разумеем пад гэтым палянізацыю правасл. беларусаў)—запраўды мела-б некаторыя асновы. Але гэта толькі на першы пагляд і пад варункам ігнараваньня сапраўднага палажэньня рэчаў, Сяньня можна сьмела сказаць. што праваслаўных беларусаў у сваей масе ніштo і ніколі ўжо ня можа здэнацыяналізаваць. У гэтым можна быць пэўным. І якраз гэтага мамэнту беларусы найменш баяцца. Акцыя ўвядзеньня польскага языка ў багаслужэньне, з гледзішча правасл. беларусаў, хавае ў сабе іншую небясьпеку — яна пагражае існаваньню і чысьціні праваслаўнае веры наагул.

Увядзеньне польскага языка ў царкоўнае багаслужэньне падарве аўторытэт праваслаўнае

# Новы працэс трацкістаў у Маскве.

Яшчэ не пасьпелі людзі забыцца аб растреле 16 трацкістаў, абвінавачаных у прыналежнасьці да „Трацкісцка-Зіноўеўскага цэнтру“, як у Маскве быў наладжаны 23-30. I. г. г. новы вялікі працэс трацкістаў, якія быццам сарганізавалі побач з даўнейшым цэнтрам яшчэ г. зв. „Роўналеглы Цэнтр“, каб праводзіць тэрор, сабатаж і наагул падрыўную работу ў Саветах. На лаве абвінавачаных заселі: Радэк (Собэльсон), Сакольнікаў (Брылянт), Пятакоў, Серабракоў, Муралаў, Ліфшыц і іншыя, ўсяго 17 чалавек, з іх 6 жыдоў. Зацікаўленьне судом было вялікае; даволі сказаць, што на судзе знаходзілася каля 40 заграцічных карэспандэнтаў, прыходзілі два амбасадары: —Францыі і Злуч. Штатаў П. Амэрыкі, а так-жа кіраўнік прэсавага бюро нямецкага пасольства. Прысутныя вярхі камуністычнай партыі, выш. урадаўцы, пісьменьнікі і г. д. Старшынстваваў на судзе Ульрых (латыш), абвінавачваў: пракурор Вышынскі (паляк).

Паводле акту абвінавачаньня „Роўналеглы Цэнтр“ арганізаваў дывэрсыйныя і тэрорыстычныя групы, якія займаліся сабатажам і шкодніцтвам на чыгунках і фабрыках, асабліва ў ваенным промысьле. Гэтыя групы на падставе інструкцыяў Троцкага і „Роўналеглага Цэнтру“ праводзілі так-жа шпіёнскую работу на карысьць другіх дзяржаў. Мэтай «Р. Цэнтру» было аслабленьне ваеннай сілы Саветаў і прыгатаўленьне нападу на яго і ў рэзультаце падзел СССР. Апроч гэтага „Р. Цэнтр“ меў на мэце скінуць савецкую ўладу, завесьці капіталізм і ўладу буржуазіі ў СССР.

Як бачым, абвінавачаньні цяжкія. Матар'ялы да гэтага абвінавачаньня зьбіралі быццам вельмі доўга, ня гледзячы на ніякія перашкоды. Газэты пішуць, што найважнейшыя доказы віны Радка і Пятакова былі ўкрадзены пару месяцаў таму ў Парыжы з архіву Троцкага.

Гэты працэс пачалі рыхтаваць зараз пасьля працэсу „Трацкісцка-Зіноўеўскага Цэнтру“, які адбыўся ў жніўні мін. году. Ужо тады быццам выкрылі існаваньне „Р. Цэнтру“, толькі начальнік ГПУ тав. Ягода ня ўмеў сабраць матар'ялу да абвінавачаньня і дзеля гэтага змушаны быў падацца ў адстаўку, а на яго месца Сталін назначыў свайго гадунца і прыяцеля—Ежова. Яму ўдалося выкрыць новую змову ў самых вярхох сав. жыцьця. Усе абвінавачаныя займалі ў Саветах высокія і адказныя становішчы: Пятакоў—гэта ня толькі найбліжэйшы супрацоўнік Леніна, але і самога Сталіна (быў дырэктарам дзярж. банку і заступнікам камісара цяжкога промыслу ўжо ў эпоку Сталіна); Радэк разам з Пятаковым і Сакольнікавым належаў да канст. камісіі, якая пад павадырствам Сталіна апрацавала новую сав. канстытуцыю; Ліфшыц быў заступнікам Кагановіча. І ўсе гэтыя людзі абвінавачаны ў здрадніцтве, шпіёнстве і нават у змове на жыцьцё Сталіна!

Яшчэ болей дзіўнымі пакажуцца нам адносіны ў Саветах, калі мы прасьледзім, што піша аб гэтых людзях сав. прэса. І так „Праўда“ (з 21. I. г. г.) падае, што „ў Троцкага, Пятакова, Радка і Сакольнікава бачым такую самую шалёную ненавісьць да сацыялізму, як і ў павадыроў нямец. фашызму... Трацкісты паставілі сабе на мэце адабраць ад працоўных сав. краю ўсе іх здабыткі і аддаць фабрыкі капіталістам“.

„Известия“ ў арт. „Праклятыя здраднікі бацькаўшчыны“ пішуць, што абвінавачаныя горшыя за фашыстаў, бо „гэтыя трацкісцкія праступнікі, паводле ўказак Троцкага і Гестапо стараліся падарваць сілы сацыялістычнай абароны, займаліся шпіёнствам і выконывалі дывэрсыйныя акты“. А газэта „За Індустрыялізацию“ (21. I) піша яшчэ вастрэй: „Здраднікі Пятакоў, Радэк, Муралаў і іншая трацкістаўская сволач памагалі заграцічным нападнікам, каб яны маглі здабыць савецкую краіну... Трацкістаўскія сабакі хацелі адбудаваць капіталістычную катаргу“...

І гэтак ва ўсей сав. прэсе і праз радіо. Болей вострых слоў мы ня хочам паўтараць; чытаючы і слухаючы гэтыя рэчы проста ня хочацца верыць, каб усе тыя абвінавачаньні былі праўдзівы.

Але дзіўней тое, што абвінавачаныя прызналіся ў сваіх праступках. Такі напр. Радэк прызнаўся, што вінаваты ва ўсім, што было ў акце абвінавачаньня ды яшчэ „высыпаў“ іншых... І так, ён казаў, што пасьля забойства Кірава сябры «Р. Цэнтру» зразумелі, што пры помачы індывідуальнага тэрору яны не дойдуць да пажаданых мэт і дзеля гэтага Бухарын, які стаяў на чале тэрорыстычнай групы, пастанавіў пашырыць тэрор і сабатаж. Гэтак сама думаў і ён, Радэк. Заграцічная палітыка апіралася на дырэктывах Троцкага, каторы плянаваў так: прыход да ўлады гітлерызму ў Нямеччыне і варожасьць Японіі давядзе да вайны з Саветамі, ў якой яны будуць пабіты. Дзеля гэтага, што мае стацца, няхай станецца хутчэй — і Троцкі данёс Радку, што навязаў кантакт з дзяржавай на Дал. Усходзе і з дзяржавай у сярэдняй Эўропе, якім абяцаны тэрыторыяльныя ўступкі. Аб гэтым ведалі Сакольнікаў, Путна, Пятакоў і нават Тугачэўскі...

Гэтакім парадкам гатовіцца новы працэс. Арыштаваны ўжо Рыкаў, б. старшыня сав. ураду пасьля сьмерці Леніна, Бухарын, аўтар „Камуністычнага лемантара“ і рэдактар „Праўды“; Ракоўскі, Угланаў, Путна, а так-жа сем'і ўсіх падсудных у апошнім працэсе.

Прысуд ведамы: 13 асуджана на кару сьмерці, у гэтым ліку Пятакова і Серабракова; а Радка, Сакольнікава і Арнольда на 10 гадоў турмы, Строілава на 8 г. Зварочвае ўвагу факт, што ані Радэк, ані Сакольнікаў, проціў якіх найболей было закідаў, не асуджаны на сьмерць. Просьба аб памілаваньні была адкінута і ўсіх 13 чалавек растралялі.

А цяпер пытаньне, якія прычыны маглі выклікаць такія працэсы ў Саветах?

Даць адказ на гэтае пытаньне даволі трудна, бо мы ня ведаем. добра палітычных ходаў Масквы! А яны ёсьць, ды яшчэ крутыя глыбокія... Даволі ўспомніць аб нашых грамадаўцах і змаганцах, якіх прыцягнулі ў Саветы, спаты-

---

царквы аканчальна. Калі-б ужо нічога супроць гэтага ня ўдалося зрабіць, праваслаўныя беларусы перастануць хадзіць у царкву. Адчыніцца значна шырэйшае поле для бязбожніцтва і сэктанцтва. Гэта агульная заўвага. Але апрача таго праваслаўныя беларусы ня могуць пагадзіцца з увядзеньнем польскага языка ў багаслужэньне яшчэ і з наступных прычынаў:

*а) З гледзішча гістарычнага.* Царкоўна-слав. язык ад тысячы гадоў ужываецца ў царкве на Беларусі. Язык гэты ня ёсьць якойсь „уласнасьцю“ скажам расейцаў, а калі ўжо аб гэта ідзе, дык беларусы і ўкраінцы маюць да яго значна больш правоў, чымся расейцы, бо-ж з Беларусі і Украіны ён шырыўся на Усход, аж аканчальна ўвайшоў у расейскую царкву. Амаль да канца панаваньня Кацярыны II у Расеі існаваў нават закон, што на вышэйшыя архірэйскія становішчы ня можна было вызначаць расейцаў, а толькі беларусаў або ўкраінцаў, бо яны толькі ведалі чысьціню веры і правільна тлумачылі царкоўна-слав. багаслужэбныя кнігі. Праваслаўныя беларусы і цяпер не дамагаюцца скасаваньня царк.-сл. языка і замены яго, нават беларускім. Прав. беларусы дамагаюцца затое пропаведзяў, бел. правасл. літэратуры, навучаньня дзяцей у школах пабеларуску, беларускіх сьвяшчэньнікаў, дзелаводзтва пабеларуску і г. д.

*b) З гледзішча дагматычнага.* Які-б ня быў добры пераклад, ён усё-ж ня можа аддаць дакладна арыгіналу. Тым-больш цяжка зрабіць пераклад з мовы няжывой, як царк.-слав., каторая мае свае асаблівыя звароты. Гэтыя недакладнасьці перакладу могуць зацямняць і зьмяняць асновы веры, ня кажучы ўжо аб тым, што пераложаныя словы папольску часам ёсьць недарэчнымі і сьмешнымі (напр. славянскае „многіе лета“ пераложаны папольску — „długie lata, długie lata“).

*c) З гледзішча прынцыповага.* На замену ад вякоў ужыванага царк. славянскага языка на іншы, ды яшчэ не беларускі, без асноваў да гэтага, прав. беларусы згадзіцца ня могуць. Ды чаму гэта мае быць язык польскі? Ці толькі таму, што часьць прав. беларусаў жыве ў Польшчы? Але тады, лёгічна, трэба было-б, каб, скажам, у Літве прав. беларусы маліліся палітоўску, ў Латвіі—палатышску і г. д. Тасаваньне гэткага прынцыпу давяло-б да абсурду.

Пералічаных прычынаў аж надта хопіць, каб гэтую новую, запраўды нячуваную, акцыю вышэйшых духоўных уладаў праваслаўныя беларусы ацанілі належна.

*М. Ш.*

---

# Агляд польскага палітычнага жыцьця.

Польскае палітычнае жыцьцё для беларускага грамадзянства мала ведамае. Найболей гаворыцца аб санацыі, эндэцыі і камуністах—і на гэтым знаёмасьць польскага паліт. жыцьця найчасьцей кончыцца. А тымчасам беларусы павінны добра ар'ентавацца як у сусьветнай палітыцы, так і польскай. На нашу вёску насылаюць многа газэт і агітатараў, якія туманяць народ і зьбіваюць яго з правільнага шляху. Дзеля гэтага, карыстаючыся з вестак, якія падала польская прэса аб паліт. жыцьці ў Польшчы, мы апрацавалі гэты агляд польскага паліт. жыцьця і падаём яго да ведама нашага грамадзянства.

Агляд наш мы падзялілі на тры часткі, паводле таго як дзеляцца паліт. партыі: лявіцу, цэнтр і правіцу.

### I. Лявіца.

Да лявіцы належаць: Камуністычная Партыя Польшчы (КПП), Польск. Партыя Сацыялістычная (ППС), „Związek Związków Zawodowych“ (ZZZ) і ўсе да іх прыбудоўкі.

*Кам. Партыя Польшчы* ёсьць партыяй нелегальнай і працуе падзямельна. У склад яе ўваходзяць і падлягаюць яе кіраўніцтву Камун. Партыя Зах. Беларусі (КПЗБ) і Кам. Партыя Зах. Украіны (КПЗУ). Дзеля таго што камуністы ў сваіх арганізацыях не прызнаюць нацыянальных асноў, а толькі дзяржаўныя (або тэрытарыяльныя), затым як КПЗБ так і КПЗУ знаходзяцца ў поўнай залежнасьці ад КПП, хоць маюць свае аддзельныя цэнтр. камітэты. Легальнай прэсы камуністы ня маюць, яны пашыраюць свае думкі або пры помачы заканспіраванай прэсы, або проста нелегальнай, якую раскідаюць па гарадох і сёлах. Трэба прызнаць, што кам. арганізацыя сільная, мае шмат фінансавых магчымасьцяў і хоць праточаная наскрозь правакатарамі, мае вялікія ўплывы. У апошніх часох, пры разбудове г. зв. людовых фронтаў, іхнія ўплывы яшчэ болей узрасьлі: можна сказаць, што большая часьць польскага работніцтва чуе сымпатыю да „людовага“ фронту.

*Польская Партыя Сац.* перажывае ў апошнія часы глыбокі крызыс. З аднаго боку яна зьвязана з пілсудчыкамі (ў 1926 г. яна паддзяржала пераварот Пілсудскага), а з другога боку — заключыла пакт ненападаньня з камуністамі. Яе орган „Robotnik“ цяпер друкуецца ў вялікай кольхасьці экзэмпляраў і пашыраецца нават на бел. землях. Аднак уплывы ППС цяпер невялікія: левае крыло адыходзіць да камунізму, а правае да нацыяналізму. Павадыры ППС: Недзялкоўскі, Чапінскі, Жулаўскі і інш. могуць астацца генэраламі бяз арміі. Гэтак зв. маладыя сацыялісты (Барліцкі, Дюбуа) рэдагуюць „Dziennik Popularny“, які выразна спрыяе „людоваму“ фронту. Яны маюць больш ўплыў на работніцкія масы, чым тыя з „Работніка“. У апошнім часе выйшла яшчэ адна газэта ППС „Walka Ludu“. Да ППС належыць TUR (T-wo Uniwersytetów Robotniczych). У сувязі з апошнім працэсам трацкістаў, адносіны ППС да камуністаў сталі болей крытычны.

Ад ўласьцівай ППС трэба адрожніць яшчэ ППС—Frakcja Rewolucyjna, якая зьбліжана да санацыі. На чале гэтай групы стаіць Морачэўскі, які мае ўплывы ў ZZZ (Związek Związków Zawodowych). Трэба адзначыць, што ZZZ, хоць стараецца быць левым і радыкальным, уплываў вялікіх ня мае. Праз яго польская лявіца стыкаецца з санацыяй.

### II. Цэнтр.

Да цэнтровых груп належаць: партыі „хлопскія“, санацыя ўсялякай масьці і гэтак зв. „Фронт Морж“.

Спасярод *„хлопскіх“* груп найбольшай ёсьць „Stronnictwo Ludowe“ на чале з Ратаём, Тугутам і ўцёкшым з граніц Польшчы Вітасам. Органам гэтай групы ёсьць „Zielony Sztandar“. Група ня ёсьць суцэльная і адналітая, бо зложаная з трох даўнейшых партыяў: Piasta, Wyzwolenia і Str. Chłopskiego—і дзеля гэтага ў сваіх арганізацыйных асновах моцна патрэскаўшы. Ад „Str. Lud.“ адыйшоў цэлы рад асоб, якія прысталі да санацыі і былі названы вельмі ўдатным прозьвішчам „Kadzichłopy“ (ад зьезду „Kadry Działaczy Chłopskich“, які адбыўся ў мін. годзе). Кадзіхлопы пакуль што безработныя і чакаюць, пакуль палк. Коц апрацуе праграму і арг. статут новай урадавай партыі, каб у яе ўліцца і пачаць агітацыйную работу.

Да польскіх сялянскіх арганізацыяў належаць так-жа: „Związek Młodzieży Wiejskiej“, „Związek Młodej Wsi“ (Siew), „Wici“ і іншыя. Адны з іх цягнуць улева — да марксызму (сацыялізму і камунізму) і да „людовага“ фронту, а другія—да санацыі і нацыяналізму.

*Санацыя*, як арганізацыя, цяпер ня існуе. Гэтак назвалі сябе пілсудчыкі, якія хацелі аздаравіць паліт. жыцьцё ў Польшчы. Творачы Бэ-Бэ яны ня мелі ніякай ідэолёгіі, апроч пашаны для асобы марш. Пілсудскага. За жыцьця маршалка санацыя была сцэмэнтавана яго воляй, а па сьмерці разляцелася на дробныя часткі, з якіх была зложана. Адны пайшлі ўлева аж да „людовага“ фронту ўключна, другія ўправа—да эндэцыі і фашызму (часьць кансэрватыстаў), а трэція твораць найболей уплывовую сяньня санацыйную групу „Związek Naprawy Rzeczpospolitej“, або г. зв. Направу. Гэтая група імкнецца ўсімі сіламі да таго, каб побач з вайсковымі

# На беларускім грунце.

*(Агляд беларускага жыцьця).*

*Голад у Дзісеншчыне.*

Ужо цэлы рад гадоў дзеля неўраджаю Дзісеншчына і суседняя Браслаўшчына цярпіць голад. Сёлета гэты голад большы, чым у прошлыя гады. Сяляне месцамі не засеялі нават жыта, бо ня мелі насеньня. Помачы аднак сёлета менш, чым у прошлыя гады. Урад зьвярнуў увагу болей на беспработных гораду і праводзіць для іх зімовую помач. Трэба, каб беларускія арганізацыі выступілі перад урадам з жаданьнем помачы для галадаючай Дзісеншчыны і часткі Браслаўшчыны. Найболей адпаведнай для гэтага арганізацыяй зьяўляецца Бел. Нац. Камітэт.

Апонім часам газэты пісалі, што голадам загрожана і Пастаўшчына.

*Закрыцьцё БІГ і К і ТБШ.*

Як ведама, пасьля спыненьня дзейнасьці БІГ і К і ТБШ урады гэтых арганізацыяў падалі рэкурсы да вілен. ваяводы з просьбай адмяніць пастанову віл. старасты аб спыненьні гэтых двух бел. арганізацыяў. Аднак віл. ваявода пастановай з дня 20. І. г. г. адкінуў рэкурсы, а пастановай з 22. І. абедзьве арганізацыі закрыў. Гэтак перастаюць існаваць дзьве найбольшыя і найстарэйшыя бел. культурна-прасьветныя арганізацыі.

У сувязі з апошнімі падзеямі на віл. грунце (рэвізіямі і інш. рэпрэсіямі), варшаўскі „Dzien. Popularny“ (з дн. 6. І. г. г.) піша, што рэвізіі, якія былі зроблены ў бел. арганізацыях у Вільні, былі выкліканы мэмор'ялам, паданым гэтымі арганізацыямі ў міністэрства Асьветы ў справе бел. школьніцтва.

*Аўтарскі вечар паэткі Н. Арсеньневай.*

Дня 17. студня сёлета Беларускі Студэнцкі Саюз і Таварыства Прыяцеляў Беларусаведы пры УСБ у Вільні наладзілі скромнае, але сардэчнае прывітаньне пясьняркі Натальлі Арсеньневай, якая жыве далёка за межамі нашага краю, на Памор'і.

Пясьнярка прыехала ў Вільню, каб адведаць сваю матку і набрацьбольш сілы, матываў, разгону да далейшае свае паэтыцкае творчасьці. Беларуская моладзь, а прадусім студэнты, даведаўшыся аб прыезьдзе Н. Арсеньневай ў Вільню, пастанавілі належна ўшанаваць выдатную пясьнярку. У залю пры Завальнай 1, прыстроеную нацыянальнымі бел.-чырвона-белымі сьцягамі а гадз. 17 зыйшлося шмат, каля 120 асоб, беларускага грамадзянства і студэнцкае моладзі. Настрой паважны. Уступнае слова і гарачае прывітаньне для паэткі ад імя БСС і ТБ сказаў студ. М. Шчорс, пасьля др. Ст. Станкевіч выступіў з рэфэратам, характэрызуючы творчасьць паэткі. Дакладчык выказаў глыбіню, вобразнасьць, настраёвасьць і мастацкасьць многалікіх вершаў Арсеньневай.

Па рэфэраце др. Станкевіча сама пясьнярка прачытала каля 16 дасюль недрукаваных вершаў. Бурлівыя воплескі дый кветкі ад беларускай моладзі былі скромнай нагародай за сапраўдныя кветкі беларускай паэзіі.

Нажаль, трэба сьцьвердзіць няўмеласьць сарганізаваньня вечару з боку тэхнічнага. Адчувалася патрэба дэклямацыяў болей вершаў Арсеньневай, апрача самой пясьняркі, дый выступленьня беларускай песьні. Пясьнярку песьняй вітаюць.

Спадзяёмся, што ў будучыні з гэтае прычыны ня трэба будзе ставіць закідаў.

Пасьля аўтарскага вечару адбылося скромнае прыняцьце паэткі ў зачыненым гуртку прадстаўнікоў беларускай моладзі так студэнцкай як і старэйшай у памешканьні гр. Э. Будзькі.

*Не даюць дазволу на новую газэту*

Пасьля спыненьня „Бел. Крыніцы“ была пададзена заява ў віл. стараства аб выхадзе „Народнай Крыніцы“, але стараства гэтай заявы не прыняло да ведама. Тады была пададзена заява на „Народнае Веча“, але і на гэту заяву паступіў адказ адмоўны. Апошнім часам была пададзена ізноў заява на „Сялянскую газэту“, але і гэта заява ня была прынята да ведама...

*Юбілейны нумар „Шляху Моладзі“*

У студні г. г. выйшаў соты нумар „Шл. Моладзі“ ў павялічаным фармаце і аб'ёме. Трэба прызнаць, што рэдакцыя на юбілей пастаралася. Зьмест багаты і разнаякі, ўложаны жыва і ўмела. Паміж аўтарамі зьмешчаных твораў знаходзім М. Машару, М. Танка, Арсеньневу і шмат іншых яшчэ малаведамых паэтаў і пісьменьнікаў. Ёсьць так-жа адказ на наш артыкул „Мэты паэзіі“, надрукаваны ў прошлым н-ры „Бел. Фронту“. Нажаль, М. Танк не хацеў „з пэўных прычын“ ўваходзіць у дыскусію аб мэтах паэзіі, а толькі даў плыўкі і павярхоўны адказ на некаторыя тэзы нашага артыкулу. А шкода, бо калі-б Танк напісаў аб мэтах паэзіі, ягоны артыкул быў-бы болей вартасным. Патаньне: ці паэт мае пісаць на загаданыя тэмы, ці вольныя—ёсьць заўсёды вельмі жыцьцёвым і вымагае вырашэньня. Мы стаім на становішчы свабоды паэтыцкай творчасьці, якая павінна быць незалежнай ад панаючых паліт. кірункаў, бо інакш паэзія робіцца казённай. У дыскусіі аб мэтах паэзіі ўзяў голас і Машара ў вершы „Адказ на пісьмо ад Апалона“, у каторым вельмі крытычна аднёсься да Танкавага пісьма ад Апалона («але зярняткі, што мы сеем, ня ў „капшукох“ пачнуць усхадзіць“) і ў канцы аб гэтым пісьме так піша:

> І ліст твой крыўдзіць нас
> о божа,
> Нас, верных слуг пявучых
> слоў.
> (Ці сярод моладзі ты можа
> Падпіў — і ў хмелю пісьмо
> сплёў?)

У гэтым-жа нумары „Ш. М.“ знаходзім яшчэ шмат чаго з паэзіі, хронікі і выдавецкай нівы. Але апроч добрых бакоў нумару, ёсьць і заганы. Уважаем, што найбольшай заганай ёсьць штораз выразьнейшая палітычная «лінія» часапісу, якая не дазваляе рэдакцыі стаць на грунт незалежнай аб'ектыўнасьці. Аб гэтым мы ўжо пісалі ў прошлым н-ры «Б. Фр.», а цяпер спытаемся ў рэдакцыі «Ш. М.», ці ня лепш было-б дзяржацца даўнейшай, выпрабаванай лініі, выключаючай палітыку? Бо калі «Ш. М.» пачне праводзіць палітыку, дык ясна, што бяз „фільства» і ар'ентацыі не абыдзецца (прыклады вельмі блізкія), а гэта можа зрабіць «Ш. М.» партыйным органам, недаступным для іншых. Дык для добра беларускай культуры ўважаем, што як «Калосьсе», так і «Шлях Мол.» павінны быць апалітычны.

*«Белпрэс».*

Нядаўна паўстала пад гэтакім назовам бел. выдавецкая супалка, якая мае выдаваць бел. газэты і часапісы. Да супалкі пакульшто прыступілі тры зьбліжаныя да сябе часапісы: „Хр. Думка», «Самапомач» і «Шлях Моладзі». Прычынай паўстаньня супалкі ёсьць вялікія кошты выкупленьня для кожнай газэты г. зв. прамысловага патэнту, які каштуе нармальна 100 зл.

---

калі з музыкай і прамовамі, а потым зьліквідавалі, так, як цяпер трацкістаў... Закіды ім ставілі падобныя, як і трацкістам.

Нам здаецца, што галоўнай прычынай цяперашняга тэрору ў Саветах ёсьць страх перад Нямеччынай і Японіяй. Гэты страх бачыць ворагаў ўсюды, нават у нутры кам. партыі. Але магчыма і тое, што ў кам. партыі ідзе развал, прыгэтым Сталін баіцца за свае ўплывы і нават жыцьцё. Страх Сталіна перад старымі бальшавікамі, якія хочуць вярнуць утрачаныя ўплывы, загадывае яму пазбывацца тых асоб, якія для яго выдаюцца небясьпечнымі. У кожным прыпадку мы зьяўляемся сьведкамі самапаеданьня бальшавікоў.

„Robotnik“, пішучы аб гэтым працэсе, ставіць справу так: *або* ўсё тое, што закідаецца тварцом бальшавіцкай рэвалюцыі, ёсьць праўдай, *або* ёсьць няпраўдай. *Калі праўда*, дык паўстае пытаньне, як маглі гэтак нізка ўпасьці старыя бальшавікі, таварышы Леніна, змагары за рэвалюцыю? У якім сьвятле прадстаўляецца ўвесь расейскі камунізм? Няўжо там толькі адны прадажнікі, здраднікі і шпіёны, якіх трэба судзіць і караць?

*Калі няпраўда,* дык у якім сьвятле прадстаўляецца сам Сталін і ўсе цяперашнія павадыры камунізму? У якім сьвятле прадстаўляецца сав. справядлівасьць, сьледзтва і прысуд?

І так дрэнна, і так нядобра. Дзеля гэтага яшчэ раз трэба сьцьвердзіць, што камунізм перажывае вялікі нутраны крызыс.

*Г.*

---

дзейнікамі адыгрываць дэцыдуючую ролю ў Польшчы. „Направа“, знаходзячыся ў цэнтры, стараецца навязаць зносіны з левымі санацыйнымі элемэнтамі, якія гуртуюцца каля газ. „Kurjer Poranny“, а так-жа з арг. „Związek Nauczycielstwa Polskiego“ (ZNP), які ў апошнія часы развівае шырокую дзейнасьць. ZNP пачаў выдаваць у Варшаве дзьве газэты: „Dzien. Poranny“ і „Gaz. Wieczorna“ а ў Вільні „Kur. Powszechny“. Паводле польскай прэсы, ZNP здраджае сымпатыі да камунізму, што выявілася між іншым у зьмяшчэньні саветафільскага артыкулу ў часапісе „Płomyk“, рэдагаваным цэнтраляй ZNP і дзеля гэтага гэта група часам завецца фронтам „Płomyka“.

Направа выдае часапісы: „Naród i Państwo“, „Front Robotniczy“, „Zew Sumienia“ і інш. Суцэльнай і адналітай ідэолёгіі Направа ня мае, а датасоўваецца да абставін і асяродка, ў якім працуе.

Ведамая некалі санацыйная *група палкоўнікаў* цяпер ня існуе. Найболей аўторытэтны з іх палк. Славэк адыйшоў ад паліт. жыцьця; палк. Коц ужо каторы час будуе новую проўрадавую партыю і ня можа збудаваць; Прыстар займае становішча маршалка сэнату, а Медзінскі (рэдактар „Gaz. Polskiej“) шукае кантакту з Направай і вайсковымі дзейнікамі, дэцыдуючымі аб паліт. жыцьці ў Польшчы. І, як чуваць, ужо гэты кантакт знайшоў.

Галоўныя павадыры Направы такія: Гражынскі, сьлёнскі ваявода; Швэдоўскі, які навязвае лучнасьць Направы з цяжкім фабрычным промыслам („Левіятанам“); Шурыг, які трымае зувязь з ZZZ; Папроцкі, рэдактар "Spraw Narodowościowych“, вельмі ўплывовы чалавек у Варшаве і Сроцкі, які таксама мае вялікія ўплывы. Апроч гэтай „пяцёркі“ ёсьць яшчэ цэлы рад штабовых людзей Направы, якіх тут ня вылічаем.

Да санацыі належыць уся варшаўская г. зв. чырвоная прэса (маючая чырвоныя загалоўкі). Польскія масоны групуюцца каля газэты „Epoka“ і маюць вялікі ўплыў на паліт. і грамадзкае жыцьцё.

*Фронт Морж* займае незалежнае і апазыцыйнае да ўраду становішча. Свой назоў гэта група атрымала ад мясцовасьці Морж (Morges) у Швайцарыі, дзе ў вільлі Падэрэўскага ў прошлым годзе адбыўся зьезд прымусовых эмігрантаў з Польшчы: Вітаса, Карфантага, ген. Сікорскага, ген. Галлера і інш. Да фронту Морж належаць: Стр. Людовэ (Пяст), польская хадэцыя, прыхільнікі ген. Галлера і інш. Органы: „Odnowa“, „Piast“, „Gaz. Grudziądzka“, „Polonia“. Да іх можна залічыць і „Goniec Warsz.“.

**ІІІ. Правіца.**

Да польскай правіцы належаць: „Stronnictwo Narodowe“ (эндэцыя) з усімі прыбудоўкамі і кансэрватысты.

*Эндэцыя* да апошніх часаў была моцнай і непадзельнай. Пару гадоў таму ад яе адкалолася група радыкальнай моладзі, якая заснавала „Organizację Narodowo-Radykalną“ (ONR). Пасьля прасьледаваньня ўрадам гэтай арганізацыі і закрыцьця яе органу „Sztafeta“, група выяўляе свае пагляды праз варш. газэту „АВС“. Трэба адзначыць, што ONR існуе цяпер ня толькі на варшаўскім грунце, але па іншых мясцох, дзе дагэтуль панавала непадзельна эндэцыя. Зблізкэнай да ONR ёсьць група „Falanga“, якая выдае пад гэтакім назовам часапіс, а так-жа газэту „Jutro“.

Галоўныя органы эндэцыі: „Warsz. Dziennik Narodowy“, „Kur. Warszawski“, „Dziennik Wileński“, „Zorza“ і інш. Да эндэцкага кірунку залічаюць так-жа газэты і часапісы польскага клеру, як „Mały Dziennik“, „Tygodnik Katolicki—Nasz Przyjaciel“ і інш.

*Кансэрватысты* дзеляцца на два кірункі: нацыяналістычны і лібэральны. Да першай групы належаць вялікія абшарнікі, як графы: Тышкевіч, Рачынскі, Тарноўскі, князь Сапега і інш. Гэтая група выдае ў Вільні „Słowo“, рэдактарам якога ёсьць ведамы з сваей ненавісьці да бел. адраджэньня Ст. Мацкевіч, які піша пад псэўдонімам „Cat“ (Кэт). Гэтая група варожа адносіцца да „Направы“, а прыхільна да эндэцыі. Да гэтай групы трэба залічыць арганізацыю кансэрватыўнай моладзі, якая гуртуецца каля газэты „Bunt Młodych“.

На чале лібэральнай групы стаіць князь Януш Радзівіл. Гэта група зьвязана моцна з капіталам і арганізацыяй цяжкога промыслу „Левіятанам“, а праз яго з таемнай і сусьветнай сілай капіталу. Органам „Левіятана“ ёсьць „Kurjer Polski“. Гэтая група прыхільна адносіцца да „санацыі“.

Гэтак прадстаўляецца ў агульных рысах палітычнае жыцьцё Польшчы. Трэба тут адзначыць, што ніводная з гэтых груп ад лявіцы да правіцы, ня мае праграмы, якая-б нам, беларусам, спагадала і давала ўсе належныя правы. Аб гэтым беларусы павінны ведаць.

У гэтым аглядзе не падалі мы ўсіх партыяў і ўсіх газэт, а падалі толькі галоўныя. Аднак на падставе гэтага кожны чытач можа зар'ентавацца ў польскім палітычным жыцьці. Што датыча сяньняшняга польскага ўраду, дык ён фактычна залежыць не ад якойнебудзь санацыйнай групы, а проста ад Прэзыдэнта і вайсковых дзейнікаў з марш. Рыдз-Сьміглым на чале, якія маюць дэцыдуючы ўплыў на палітыку Польшчы.

*В. Г.*

---

*БЕЛАРУСЫ, калі хочаце ўсебакова пазнаць беларускую і сусьветную палітыку, выпісвайце „Беларускі Фронт“! Прысылайце складкі і ахвяры! Пашырайце газэту пасярод сваіх знаёмых!*

